## ТАЛЕНТ ШЧЫРЫ, ЧАЛАВЕЧНЫ

Зараз цяжка сабе ўявіць беларускую прозу без самабытнай творчасці Янкі Брыля, без яго цудоўных апавяданняў, аповесцей, нарысаў, рамана «Птушкі і гнёзды».

Брыль прыйшоў у нашу літаратуру адразу ж пасля вайны. V 1946 годзе выйшаў першы зборнік «Апавяданні», вельмі прыхільна сустрэты і чытачом, і крытыкай. У прадмове да зборніка Кандрат Крапіва зазначыў, што «Янка Брыль з'яўляецца адным і найбольш таленавітых маладых празаікаў, якія прыйшлі ў беларускую літаратуру ў часе вайны і пасля яе». Гэтае месца аднаго з найбольш таленавітых, праўда, ужо не толькі маладых, а і ўсіх беларускіх пісьменнікаў Брыль з гонарам займае і зараз.

Жыццёвы шлях пісьменніка быў не просты і не лёгкі. Дзяцінства ў адной з вёсак былой Заходняй Беларусі, з ранніх гадоў цяжкая праца на гаспадарцы, польская казарма, нямецкі палон, змаганне з ворагам у партызанскім атрадзе — вось асноўныя вехі на гэтым шляху, які насычаны багатым знешнім і ўнутраным зместам.

Перш чым пісаць, Брыль прайшоў добрую школу жыцця, у якой літаратура займала далёка не апошняе месца. Жыццё і літаратура навучылі яго праўдзівасці і справядлівасці, шчырасці і адкрытасці. За яго плячыма глыбокае веданне чалавека, роздум над яго лёсам, клопаты і турботы аб ім.

У сваёй аўтабіяграфіі пра героя аповесці «Сірочы хлеб» Брыль пісаў: Данік — «мілы сябар майго маленства, якога я

зляпіў з многіх знаёмых хлопчыкаў, дадаўшы трохі і свайго. Свайго найбольш — у Данікавай закаханасці ў настаўніцу, якая была, якую я любіў, можа, нават мацней, чым напісаў пра гэта».

«Сірочы хлеб» — гэта гісторыя фарміравання характару, гісторыя духоўнага росту і станаўлення чалавечай асобы. Паказаць, як навакольны свет, сацыяльнае жыццё, бытавыя ўмовы ўплываюць на характар чалавека, закладваюць першыя цагліны ў фундамент чалавечнасці і дабраты — для Брыля асноўнае.

Пісьменнік любіць дзяцей, стварае надзвычай чалавечныя, паўнакроўныя вобразы іх. Умее паказаць чалавека шырока, не засланяючы яго ад жыццёвых нягод. Але творы заўсёды светлыя па настроі, жыццесцвярджальныя сваім пафасам, палоняць выключнай шчырасцю. Брыль заўсёды ў жыцці бачыць светлы пачатак, яго вылучае і па-мастацку сцвярджае, нікольні не ўпрыгожваючы і не спрошчваючы агульнай карціны.

Для Даніка Мальца, як і для Косціка і Шуркі, дзяцей краўца бедняка («Праведнікі і зладзеі»), Асі («Зялёная школа»), хлопчыка з апавядання «Дзічка», жыццё не заўсёды было пяшчотным і клапатлівым. Колькі зняваг, горычы, здзекаў і пакут угатаваў сірочы лёс Даніку. Горкая доля пастушка, здзеклівыя адносіны багацея солтыса і яго дзяцей, пагарда з боку такіх шляхецкіх настаўнікаў, як Цаба ці панна Рузя, да дзяцей-беларусаў, вучняў-беднякоў, адчуванне пастаяннага ўціску.

Аповесць аб «сірочым хлебе» Даніка Мальца ўся пранізана сумам, вострай шчымлівай тугою. Яна, як песня дзеда Мікіты, якую той у канцы твора іграе на жалейцы свайму памочніку-пастушку,— «сіратлівая, сумная песня...» Але няма тут адчаю, безнадзейнасці, няма роспачы і безвыходнасці. Твор сагрэты моцным цяплом любасці да людзей, скрозь сум і тугу ўвесь час адчуваецца святло веры ў чалавека, у лепшае жыццё, святло сонца, што немінуча ўзыдзе над зямлёю.

Адкуль такое адчуванне? Дзе крыніцы аптымізму, у чым выток жыццесцвярджальнасці?

У глыбокай веры ў чалавека, у любві да яго, што ідуць ад

грунтоўнага ведання жыцця і самога чалавека. Аптымізм Брыля не гучныя словы, не пустыя дэкларацыі, не штучнасць пафасу. Ён ад жыцця, вынікае з яго глыбокага даследавання і выяўлення яго асноўных тэндэнцый.

У канчатковым выніку чалавека фарміруюць умовы, тое прыроднае і сацыяльнае асяроддзе, у якім ён расце і выхоўваецца. І чалавек становіцца сапраўдным чалавекам у такой ступені, у якой ступені чалавечнымі будуць умовы фарміравання яго характару.

Перачытваючы творы Брыля, нельга не заўважыць, наколькі вялікую ўвагу аддае ён паказу вызначальнай ролі ўмоў, абставін у станаўленні чалавечай асобы, у вызначэнні яго жыццёвага лёсу. Беднасць, нястача, імкненне да зямлі і багацця калечаць жыццё Галі («Галя»). Умовы гітлераўскай ганебнай рэчаіснасці і яе сляпой верай у фюрэра, бяздумнасцю і жывёльнай пакорнасцю ператвараюць чалавека ў просты вінцік бяздушнай фашысцкай дзяржаўнай машыны («Птушкі і гнёзды»).

Данік, церпячы крыўды, адчуваючы несправядлівасць, адначасова бачыць і праявы чалавечнасці і справядлівасці, адчувае шчыры клопат, душэўную цеплыню не толькі маці, але настаўніцы пані Мар'і, якая ўбачыла ў ім і падтрымала любоў да кнігі, ч ула аднеслася да яго выключна ўражлівай душы. Мікола Кужалевіч, бядняк і непрымірымы вораг паноў, падтрымаў у Даніку веру ў свае сілы, «бядняцкую годнасць», навучыў роднай мове, даў асноўны накірунак грамадскаму развіццю хлопчыка. Таму, нягледзячы ні на што, Данік цвёрда становіцца на ногі, набірае ў жыцці ўсё больш моцы і чалавечай прыгажосці.

Слухаючы на ўроку апавяданне Цёткі аб пакутлівым лёсе Міхаську хлопчык думае пра сваё сірочае жыццё. Бачыць у ім шмат радаснага, прыгожага, паэтычнага. Успамінае, як яны, хлапчукі, бегалі па цёпленькіх дажджавых лужынах, хадзілі на Нёман, гулялі ў лапту, гайдаліся на гнуткіх бярозках, увосень палілі бульбоўнік і пырнік і «пяклі ў прыску салодкую духавітую бульбу...» Чытаючы, адчуваеш узрушанасць хлопчыка, заха-

пляешся прыгажосцю жыцця, бачыш наяве непаўторна паэтычныя малюнкі прыроды. Разам з тым недзе з глыбіні прабіваецца і сум, навеяны чытаннем твора пра трагічны лёс другога хлопчыка-сіраты.

Брыля, пра што б ён ні пісаў, які б жыццёвы матэрыял ні браў у аснову твораў, перш за ўсё цікавіць чалавек. Галоўнае для яго — раскрыць і паказаць у чалавеку тое светлае, адвечнае, што закладзена ўжо ў самой прыродзе і што ўзбагачана, узмоцнена часам і ўмовамі і потым можа вытрымаць любыя выпрабаванні: дабрату, чалавечнасць, любоў да людзей і роднага краю, шчырасць.

Канфлікт паміж людзьмі душэўна прыгожымі і багатымі і людзьмі хцівымі, чэрствымі, эгаістычнымі магістральны для ўсёй творчасці Брыля. Сцвярджаючы высокія маральна-этычныя якасці, пісьменнік нікольні не ізалюе героя ад багатага жыццёвага акружэння, грамадска-сацыяльных і бытавых супярэчнасцей. У першых апавяданнях гэтыя супярэчнасці знешне асабліва ярка выражаны. Прыгадаем хаця б апавяданне «Праведнікі і зладзеі». Аўтар рэзка супрацьпаставіў дзве сацыяльныя сілы, больш таго — дзве маралі. З аднаго боку, сям'я багатага кулака Грыба, жорсткага, азвярэлага ў сваёй сквапнасці чалавека, які не бачыць у жыцці нічога радаснага і прыгожага, усіх ненавідзіць. З другога боку — Лапінка, жыццярадасны, некалькі бесклапотны, шчыры, улюбёны ў жыццё, і яго дзеці. У творы няма непасрэднага сутыкнення гэтых антаганістычных сіл. Але ўсе мастацкія кампаненты (сюжэтна-кампазіцыйная пабудова, асобныя мастацкія дэталі, мова, эмацыянальная афарбоўка) падпарадкаваны сцвярджэнню натуральных чалавечых узаемаадносін і асуджэнню бесчалавечнасці.

Адвечная барацьба дабра і зла ў самых разнастайных жыццёвых праяўленнях пастаянна цікавіць Брыля-пісьменніка. Паказваючы сутыкненне чалавечых характараў з асяроддзем, паміж сабою, ён уважліва прасочвае, як фарміруецца ўнутрана прыгожая і багатая чалавечая асоба, наколькі чалавек у суровых аб-

ставінах застаецца сапраўды чалавекам. Таму, відаць, не выпадкова празаік аддае столькі ўвагі мастацкаму асэнсаванню надзвычай багатага матэрыялу вайны. На вайне ў выключна складаных і цяжкіх умовах, дзе вельмі часта справа тычыцца жыцця ці смерці, ідзе выпрабаванне чалавека на чалавечнасць.

Пры звычайных умовах штодзённага партызанскага жыцця Іван Серада, адзін з герояў апавядання «Адзін дзень», быў партызанам не горшым за іншых. Але вось група з чатырох чалавек апынулася ў варожым акружэнні. Страшэнная стомленасць, пітохвіліннае адчуванне небяспекі, пастаяннае нервовае напружанне вытрымліваюць не ўсе. Серада забывае не толькі пра партызанскі атрад, пра барацьбу з ворагам, а і пра сваіх таварышаў.

Брыль умее добра перадаць змены ў псіхалогіі, у паводзінах. У адносінах паміж сабою персанажаў праз унутраныя маналогі, мастацкія дэталі, учынкі. Падзеі падаюцца аб’ектыўна, потым, самыя важныя з іх, праводзяцца праз унутранае асэнсаванне таго ці іншага героя.

Перад партызанамі балота, нельга прайсці. Серада рассядлаў каня, зняў аброць, сцебануў і, «ледзь што не весела, крыкнуў:

— Эй, Сівы!.. Усё, па вайне!?» Тут прабіваецца радасць чалавека, які развітваецца з чымсьці для яго страшэнна непрыемным і небяспечным. Пазней, калі эгаізм і баязлівасць, якія дзесьці сутыкаюцца са здрадай, выявіліся досыць поўна, і гэты ўчынак, і іншыя як бы асэнсоўваюцца другім героем твора, прыводзяцца ў сістэму, каб убачыць сапраўдны змест паводзін чалавека. «Жэнька моўчкі ішоў за Лідай… і думаў:

Чаму ён так крыкнуў на Сіўку: «Усё, па вайне!? Чаму ён, такі ваяка, сілай нядаўна выцягнуты з хаты, такі таўкач, раптам адчуў сябе начальнікам? Ён заўсёды ды схавае!.. Толькі вось Ліда перашкаджае яму. Ды нават не Ліда, а Верачка… Чаму ён забыўся і пра забітых сяброў, і пра тое, што сёння робіцца ў вёсках,— колькі нашых бацькоў, і малых, і дзяўчат расстраляна і спалена ад рання?..» Унутраны маналог, усхваляваны, перарывісты, дае не толькі ўскосную скандэнсаваную характарыстыку

Серады, але і вельмі добра перадае ўзбуджанасць Жэнькі Саковіча, яго злосць, імкненне знайсці адказ у рашаючы і адказны момант.

Увогуле, выкарыстоўваючы багаты жыццёвы матэрыял, канкрэтныя бытавыя і псіхалагічныя дэталі, разнастайныя формы ўнутранага маналога, Брыль добра перадае складанасць жыццёвага канфлікту, псіхалагічную разнастайнасць чалавечых характараў, сцвярджае, паэтызуе мужнасць і чалавечнасць.

Апавяданні апошніх гадоў у параўнанні з першымі адрозніваюцца скупасцю матэрыялу, апісанняў абставін, аўтарскіх заўваг і рэмарак, выразнай акрэсленасцю ідэі, кандэнсацыяй думкі і пачуцця, глыбокім роздумам. На першы план вылучаецца асноўны факт, які гаворыць сам за сябе.

Дваццаць італьянскіх салдат адмаўляюцца страляць у мірных жыхароў вёскі, жанчын і дзяцей. Дваццаць «не захацелі цаной нявіннай крыві вяртацца... у сваю непаўторна прыгожую краіну». Яны загінулі («Дваццаць»),

Гіне стары, гіне разам з роднымі, суседзямі, з усімі добрымі людзьмі. Ён не хоча жыць адзін, не хоча жыць, калі гінуць людзі яго вёскі, не хоча прымаць літасць ад крывавых рук катаў. «І ён згарэў — адзін, хто мог бы ў той дзень не згарэць. І ён жыве» («Memento mori»).

Ідзе на смерць маці. Ідзе ціха, спакойна, як і жыла, трымаючы «свае худыя, так мала ў жыцці цалаваныя рукі... мазалямі да мазалёў. Ідзе і моліцца, як вучыла яе яшчэ мама. Моліцца «і за сваіх сыноў, і за чужых, і за сябе...» Ідзе толькі таму, што ў яе вялікае чалавечае сэрца, поўнае любві, пяшчотнасці і шкадавання да дзяцей, сваіх і чужых. Ідзе, зусім не думаючы пра тое, «што вобраз яе засядзе ў сэрцы многіх мужчын горкім, няўмольным дакорам, што вочы і рукі яе ўспамінаць будуць нават дужыя людзі, выганяючы з душы апошні страх перад начной партызанскай атакай» («Маці»).

Маці! Яе светлы высакародны вобраз праходзіць праз усю творчасць Янкі Брыля. Яна вучыць любіць і шанаваць роднае

матчына слова, бацькоўскую зямлю, родны край. Яна з'яўляецца ўвасабленнем дабраты, прыгажосці, чалавечнасці.

Нездарма Брыль, пісьменнік з абвостраным пачуццём дабра, прыгажосці і справядлівасці, зноў і зноў звяртаецца да маці як да ўвасаблення ўсяго самага сумленнага, светлага і прыгожага ў чалавеку. Прыгадаем «Сірочы хлеб», «Птушкі і гнёзды», «Ты жывеш», «Маці». У апошнім апавяданні вобраз маці трагічны. Гэта не выпадкова. Тут свая жыццёвая, мастацкая і філасофская абумоўленасць. Фашызм як найбольш поўнае ўвасабленне зла, разбурэння і знішчэння губіць чалавечнасць, прыгажосць, дабро. Новы росквіт жыцця, перамога над цемрай немінуча патрабуе ахвяр, ахвяр самых дарагіх. Пісьменнік у гэтым застаецца верным праўдзе жыцця. Але ў Брыля надта моцны парыў да чалавечнасці, добрая душэўная шчодрасць, і гэта надае творам моцную жыццесцвярджальную сілу, глыбокае гуманістычнае гучанне.

Яго герой — гэта найперш сапраўдны чалавек, прыгожы душою, добры, шчыры, закаханы ў родную зямлю і родны край; ён, як і сам пісьменнік, шчыра захапляецца жыццём, схільны да душэўнай аддачы, умее бачыць і адчуваць прыгожае, глыбока любіць бацькоўскую зямлю.

У Брыля любоў да роднай зямлі, Беларусі, любоў да яе народа і мовы не толькі матчына, але і глыбока ўсвядомленая. Яе вытокі ў шматпакутнай і гераічнай гісторыі народа, у яго векавой барацьбе за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, у пяшчотных родных словах матчынай калыханкі, у дзівосна багатай вуснай народнай творчасці, у смерці яе кожнага чацвёртага жыхара ў мінулай вайне. І верыш пісьменніку, калі ён, знаходзячыся далёка ад радзімы, у Італіі, і як бы звяртаючыся да свайго ўяўнага субяседніка-італьянца, гаворыць: «Я ўпершыню так далёка ад родных мясцін. І ты мне прабачыш, аміка, калі я раптам заплачу... Гэта ад радасці, што ёсць на свеце мая пяшчотная, працавітая, мужная Беларусь!..» («Дваццаць»).

Годнасць чалавека пісьменнік вымярае самым вялікім рахун-

кам — адносінамі да Радзімы, Гэта мера яго чалавечай і грамадзянскай сталасці.

Апынуўшыся ў нямецкім палоне, у горы і бядзе, Алесь Руневіч, герой рамана «Птушкі і гнёзды», асабліва адчуў, наколькі Радзіма стала любай, дарагой і неабходнай. Яна кліча яго водарам лугавых кветак, густым шумам бароў, маркотнай задушэўнасцю песень, родным словам. Тое, што ў дзяцінстве было звычайным, штодзённым жыццём, становіцца памяццю сэрца, набывае глыбокі паэтычны змест і сэнс.

А прыгадаем сцэну з нарыса «Сэрца камуніста». Сакратар райкома Павел Жалезняковіч глядзіць на карту раёна. «Сціплая карта, як нейкі іерогліф, напамінае сакратару пра так добра вядомыя і ўраджайныя, і пясчаныя палі Наднямоння. Закаханым позіркам бачыць ён, як на бяскрайняй зеляніне лугоў жаўцее пасціл ільну... Смачна, соладка пахне высокая, густая кукуруза, якую на дзіва спраўна і люба для гаспадарскіх вачэй падкошвае і шаткуе камбайн. Далей на захад, дзе пяскі, жоўтымі свечкамі кветак стракаціць зялёны, сакавіты лубін, пасля якога добра родзіць жыта і — ад сіласу — правяцца каровы. Мядамі пахне грэчка і канюшына. Цешаць душу барозны, і асабліва бурты выдатнай бульбы. Гудуць і свецяць шэсць новых калгасных электрастанцый. Дымяць і пахнуць цёплым зернем універсальныя сушылкі...» Адвечнае і сённяшняе, паэтычна прыгожае і штодзённа звычайнае, аб’ектыўная рэчаіснасць і асабістае яе ўспрыняцце і аўтарам, і героем арганічна зліліся ў адно. Гэта ява і родных мясцін, і роднага краю. Ява, якая прыйшла не сама сабою, а якую заваёўвалі ў суровыя гады санацыйнай Польшчы і нямецкай акупацыі, выпакутавалі ў засценках дэфензівы і фашысцкіх лагерах смерці лепшыя сыны народа. Менавіта такім для Брыля з’яўляецца Павел Жалезняковіч, радавы вялікай кагорты камуністаў, чалавек багатай паэтычнай душы, адданы вялікай справе — барацьбе за шчасце працоўных. Яго лёс, лёс барацьбіта-камуніста, неаддзельны ад лёсу роднага краю і барацьбы яго лепшых сыноў. Жыццё працоўных Заходняй Беларусі, іх змаганне за нацыяналь-

кае і сацыяльнае вызваленне, за свабоду і шчасце для Жалезняковіча вельмі асабістыя. Брылю ў нарысе надзвычай добра ўдалося, расказваючы пра жыццё аднаго чалавека, перадаючы яго думкі і пачуцці, паказаць жыццё народа, лёс роднага краю. Гэтаму, а таксама стварэнню высокага эмацыянальнага напалу твора, атмасферы шчырасці і ўсхваляванасці падпарадкаваны мастацкія кампаненты: сюжэт і кампазіцыя, манера апавядання, у якой узаемапранікаюць, а часам зліваюцца голас аўтара і голас героя, непасрэдна лірыка-публіцыстычныя аўтарскія адступленні, прыёмы раскрыцця характару.

Пачатак нарыса эмацыянальна некалькі стрыманы, апавяданне вядзецца ад трэцяй асобы. Далей герой у думках вяртаецца да мінулага, адзін за другім наплываюць успаміны; у аўтарскім апавяданні ўсё больш моцна чуецца ўсхваляваны голас героя. Чым выразней вырысоўваецца аблічча гэтага, як зазначае Брыль, «рэвалюцыянера з паэтычнай душой», тым больш голас героя становіцца гучным, яго «я» прарываецца наверх. Канчаецца твор адкрытым зваротам аўтара: «Дарагі Павел Арсеньевіч! Пасля пэўных ваганняў дазваляю сабе ўмяшацца ў гэты расказ пра ваша жыццё са сваім аўтарскім я». Гэты непасрэдны зварот пісьменніка арганічна ўплятаецца ў агульную лірычна-ўсхваляваную плынь апавядання як адкрытае праяўленне духоўнага адзінства пісьменніка і героя, які ўвасабляе сапраўдную прыгажосць і паэзію жыцця.

Як кожнага сапраўднага мастака, Брыля турбуюць і праблемы мясцовыя, часовыя, і адвечныя пытанні чалавечага быцця. У мясцовым ён знаходзіць агульнае, адвечнае адкрывае ў часовым. Найбольш яскравы прыклад — раман «Птушкі і гнёзды», твор глыбокага філасофскага зместу, сучасны сваёй ярка выражанай гуманістычнай накіраванасцю і сваімі мастацкімі якасцямі, твор, у якім адчуваецца асаблівая любоў, замілаванасць да «краіны дзяцінства».

Чытаючы прозу Брыля, пачынаючы першымі апавяданнямі і канчаючы рамонкавым россыпам «Жмені сонечных промняў»,

заўсёды адчуваеш родны край, родную зямлю, крыніцу радасці і смутку, натхнення і турбот. Бачыш наяве быстры, паўнаводны Нёман, чуеш глухі, працяжны шум лясоў, удыхаеш іх смалісты водар, густы грыбны настой увосень, разнастайныя лугавыя пахі ў час касавіцы, глядзіш, праязджаючы разам з аўтарам па вузкіх, абсаджаных зялёнымі вербамі, забрукаваных дарогах, на пагоркі пад Навагрудкам, не налюбуешся шырокімі травяністымі лугамі на берагах Нёмана і невялікімі бруістымі рэчкамі. Усё знаёмае, блізкае, роднае.

Беларусь, яе людзі, прырода, мова — яны заўсёды хвалююць пісьменніка і яго герояў, вечны іх клопат і роздум.

Чытаеш пра ўпэўненасць Алеся Руневіча, «што і нам, на нашай бясконца, дзіўна жывучай, па-народнаму невычэрпна багатай мове давядзецца яшчэ сказаць чалавецтву наша вялікае братняе слова», і бачыш самога пісьменніка, яго роздум аб мінулым і сучасным нашай мовы, цвёрдую ўпэўненасць у яе далейшым росквіце, адчуваеш штодзённы клопат майстра слова за яе чысціню, узбагачэнне і ўдасканаленне.

І сапраўды, мову Брыля заўсёды заўважыш і адчуеш. У ёй ёсць той своеасаблівы і непаўторны водар, тая свая музыка, якія часам цяжка, а то і наогул немагчыма вытлумачыць, але якія заўсёды адчуваеш пры чытанні. Тут і эмацыянальная афарбоўка слова, мелодыка і рытміка сказаў, адметнасць сінтаксічных канструкцый, спалучэнне сказаў паміж сабою, пластычнасць, дакладнасць, свежасць дэталей у апісаннях. Вось два прыклады з апавядання «Праведнікі і зладзеі».

«Раніца ўстала марозная, ясная. Пакуль парастайвалі ў небе зоркі, збялеў асколак месяца і зарумяніўся над лесам усход,— вёскі ўжо не спалі. Світанне ніколі не застае іх у сне, бо працоўны зімовы дзень на вёсках пачынаецца ноччу».

«І праўда: ад елачкі заячыя сляды, быццам нехта, бегучы, папіраўся кіёчкам. Пасля пачаліся яліны, бярозы, алешнік, асіннік. Зрабілася зацішней, і пацяплела. На ялінах, нагадваючы свечкі на каляднай ёлцы, віселі шышкі-таўкачыкі і залаціліся на

сонцы. Нешта заварушылася ў зялёным іголлі, і на сонцы заіскрыўся, пасыпаўшыся, снежны пыл».

Брыль у нашай літаратуры грунтоўна заняў сталае і вельмі асабістае месца, якое належыць толькі яму і больш нікому. Творы яго ніколі не зблытаеш з творамі іншых; яны вылучаюцца сваімі героямі, сюжэтна-кампазіцыйнымі якасцямі, моўнымі і стылявымі асаблівасцямі, вылучаюцца, у першую чаргу, тым пачуццёвым адбіткам, той маральнай і эмацыянальнай узрушанасцю, якую яны пакідаюць у чытача і якая ідзе ад аўтарскага ўспрыняцця рэчаіснасці.

Ужо першыя апавяданні пісьменніка падкуплялі шчырасцю і праніклівасцю, непаўторным лірызмам, які выражаўся не толькі ў эмацыянальнай нагрузцы слова, рытміцы і мелодыцы сказа, не толькі ў адкрытасці, непасрэднасці выражэння аўтарскіх сімпатый і антыпатый. Гэта не нейкая толькі стылёвая ці жанравая якасць. Лірызм Брыля шырэй і глыбей. Ён з'яўляецца асновай пісьменніцкага ўспрыняцця рэчаіснасці, асновай яе мастацкага паказу і асэнсавання. Галоўны герой — асоба духоўна багатая, надзвычай чулая і ўражлівая; абмалёўка характараў, якія менш раскрываюцца праз дзеянне, а больш праз аналіз іх думак і пачуццяў; рух сюжэта як унутраны рух характараў, рух думкі і пачуцця; асацыятыўнасць сюжэтных «счапленняў»; дыялагі, якія ў асноўным пабудаваны на адпаведным настроі, тоне — усё гэта вынікае з лірычнай прыроды таленту, ёю абумоўлена.

Сам спосаб асэнсавання рэчаіснасці непасрэдна эмацыянальны, паэтычны. Вельмі часта падзеі падаюцца праз успрыняцце галоўнага героя. А асабістае, лірычнае «я» пісьменніка выяўляецца надзвычай непасрэдна, афарбоўвае ўсё шчырым, глыбокім пачуццём.

Што б мы ні ўзялі: раман «Птушкі і гнёзды», аповесці «На Быстранцы», «Апошняя сустрэча», «У Забалоцці днее», «Сірочы хлеб», апавяданні, нарысы, дарожныя нататкі; пра што б ні пісаў пісьменнік: жыццё пры буржуазнай Польшчы, вайна, першыя гады пасля вызвалення, сучаснасць; для каго б ні прызначаліся

творы: дзяцей, юнакоў, дарослых — усюды відаць мнагаводная і глыбінная лірычная плынь.

Увогуле лірызм Брыля — гэта вельмі адметная, выключна моцная асабістасць пісьменніка, якая адчуваецца ва ўсім, пра што ён піша. А піша заўсёды пра тое, што сам перажыў, перадумаў, адчуў. Адсюль дакладнасць у перадачы настрою, усёй складанасці пачуццяў і адчуванняў, іх танчэйшых пераходаў, переканаўчасць у раскрыцці духоўнага жыцця чалавека, здольнасць захаваць у творы непасрэднасць жыццеўспрыняцця і дзіцяці («У сям'і», «Сняжок і Волечка»), і падлетка («Сірочы хлеб»), і дарослага чалавека («Галя», «Апошняя сустрэча», «Птушкі і гнёзды»).

Многія творы ўяўляюць сабою як бы споведзь героя, самараскрыццё яго душы; выключна многа месца займаюць успаміны, унутраны зварот.

Талент Янкі Брыля багаты і разнастайны. Апавяданне, навела, аповесць, раман, нарыс, падарожны дзённік...

У жанры так званай малой прозы яго апавяданні займаюць сваё адметнае, толькі ім прызначанае месца.

«Кніга адной маладосці», як назваў яе сам пісьменнік, «Птушкі і гнёзды» стала даволі прыкметнай з'явай у сучасным савецкім рамане. Для беларускага ж рамана гэта новы значны крок у развіцці і ўзбагачэнні яго жанравых магчымасцей.

Нарысы «Сэрца камуніста» і «Партрэт старэйшага таварыша» ўзбагацілі гэты жанр нашай літаратуры, асабліва тую яго галіну, што называецца лірычным нарысам.

І надзвычай характэрна, што ўсюды Брыль застаецца самім сабою — грамадзянінам свайго часу, навечна закаханым у родны край, чалавекам, якога хвалююць адвечныя пытанні сэнсу і прызначэння людскога жыцця, шчырым, усхваляваным лірыкам, непаўторным майстрам слова. Зайздросная якасць, уласцівая самабытным чалавечым асобам, арыгінальным талентам.

Шчырасць, праўдзівасць, этычная абвостранасць яго творчасці ідзе ад адкрытасці, добрасумленнасці натуры; арыгінальнасць

яе — ад паўнаты самавыяўлення гэтай цэласнай, багатай чалавечай індывідуальнасці.

Заўважана — і гэта неаднойчы адзначалася,— што сапраўдная шчырасць, праўдзівасць і арыгінальнасць творчасці таго ці іншага мастака ў многім залежыць ад глыбіні аўтабіяграфічнага адбітку ў ёй. Яшчэ раз пераканацца ў гэтым можна на творчасці Янкі Брыля, пісьменніка-лірыка, шчырага, праўдзівага і адкрытага ў самавыяўленні, вельмі аўтабіяграфічнага ў адлюстраванні аб'ектыўнай рэчаіснасці.

*Серафім АНДРАЮК*

# Праведнікі і зладзеі

1

Было гэта ў студзені трыццаць сёмага года. Пятрусь Грыб, адзін з багацеяў мястэчка Дварок, дачуўся надоечы, што лес ягоны сякуць напавал, больш як заўсёды.

«Паеду,— вырашыў стары,— зірну на яго, а можа і застаць каго ўдасца...»

Трэба было, аднак, каб тае ночы, калі ён меў выязджаць, баба яго — заўсёды дакладная, як будзільнік,— заспала.

Ляжалі яны абое на печы — Грыб ад сцяны, а Грыбіха ад хаты, бліжэй да насценнага гадзінніка. Глухаваты ад старасці, Пятрусь спаў яшчэ моцна, мог недачуць гадзінніка, і таму ён спадзяваўся на сваю Аксеню. На вялікім куфры старой, на сенніку і з падушкай — усё як трэба — спаў начлежнік.

«Шмат народу цяпер ходзіць па гасцінцы,— думала ўвечары Грыбіха.— То беспрацоўныя, то святыя, то палітыкі. Вось і ім солтыс прывёў нейкага з тых, што пасля турмы за камуну не маюць права жыць у сваім павеце, а ідуць у свет вочы на высылку. Здаецца, быў бы ты сабе чалавек, як чалавек, а ён — куды там! Пятрусь яму пра лес, пра нашу шкоду, дык ён... Выходзіць, па-

ягонаму, што ледзь не самі мы вінаваты, а не той, што наша дабро крадзе.

Пятрусь не стаў з ім доўга гаманіць. «Будзем,— кажа,— газу тушыць, годзе. Мне заўтра ў лес, як найраней, а вам — чаму не!— добра сабе пахаджаць, можна і пагутарыць...»

Адвярнуўся Пятрусь і заснуў,— дзякуй богу за сон...

Сама старая ніяк не магла заснуць. Збунтаваў ёй усю душу гэты хлопец. Доўга сядзела на печы, без агню, і ўсё думала, успамінала...

Жылі яны з Петрусём, можна сказаць, усё жыццё толькі ўдваіх. Ад сына, Міхася, сапраўднай дапамогі не было. Спачатку вучыўся, а потым фельчарам быў. Вучылі — думалі, што карысць будзе, гонар, пашана. Адно ж ён больш з хаты, як у хату, насіў. Падумаць толькі — лякарствы галоце на свае грошы купляў! А заробіць якую нуду, дык і тое ад бацькоў схавае, каб ізноў аддаць... Няхай бы ты лепш навучаны быў, ды разумны, як бацька з маткай. Засне ён тыя разы, а яны — давай шарыць грошы па кішэнях у яго ці ў кнігах. А ён аднойчы вазьмі ды прачніся,— ці можа і зусім не спаў,— і выйшла ў іх з бацькам сварка. Першы раз бацьку юдай назваў... А то больш было так: паглядзіць рана па кішэнях, пакруціць галавой і кажа: «Ну і людзі з вас, маці...»

Рана Міхась налётаўся. Бацькаўскае слова не вецер. Падчапіў недзе тыфусу, паляжаў колькі дзён і памёр. Гадоў нешта са тры пасля таго, як цара скінулі, у іх пачаўся тыфус, дык Міхасю і супынку не было, пакуль не наскочыў.

Які ён там ні быў,— усё ж такі свая кроў. Ды і адзін жа, як тое вока ў ілбе. Гаравалі дужа, колькі слёз пралілі!.. Неяк яно тады ўсё самае лепшае ўспомніцца, уся тая ласка, якая была.

Стаяла яна над ім стаянцом, дзень і ноч. І неяк раз павёў сынок вачыма па хаце, спыніўся зрокам на ёй... «Мама, старэнькая мая...» — прашапталі сухія, гарачыя вусны. І яна адказала яму набрыняўшымі за доўгі час рыданнямі. Падняў руку, і яна бяссільна апала старой на прыпол. Пальцы заварушыліся, знайшлі яе руку... А тут рыпнулі дзверы, і, як цень, стаў на парозе Пятрусь. Міхась памкнуўся ўстаць. «А-а, гэта ты, бацька,— прамармытаў ён сіпла,— грошы прыйшоў шукаць...» І зноў апаў на падушку.

Гэта былі яго апошнія словы.

Праўда, дарма на бацьку грашыў, хай яму бог даруе. Бо каму ж, як не яму, збіралі яны ўвесь век? А што ён супраць бога пайшоў, дык хай яго сам бог і памілуе...

Доўга пасля таго жылі яны ўжо зусім толькі ўдваіх, пакуль сілы служылі. Пятрусь — гаспадар не абы-што. Засекі жыта. Два разы гарэў, два разы будаваўся. Гарэў праз ліхіх суседзяў: падпальвалі. Цяпер вось дом цагляны, у два канцы, а ўсе будынкі глінабітныя. На лета бралі парабка, куплялі каня, купляў у яўрэяў-крамнікаў гной, поле добра ўрабляў, дык яно і давала. І ў самой яе грады не горшыя, як у гароднікаў-татараў. Яны з Петрусём не глядзелі, як іншыя, каб з'есці, выпіць, знасіць. Глядзелі, каб было як жыць, каб людзі не смяяліся, кожны, як той казаў, дурань. Памаліўся богу дый пайшоў, не агінаючыся, ад цямна да цямна. І бог даваў: і ладна ўсё, і ў торбачку, на дно гэтага самага куфра, дакладаліся адна да адной «чырвоныя галоўкі» — пяці- і дзесяцірублёўкі мікалаеўскага золата. «На чорны дзень. Самая цвёрдая надзея...» На зіму парабка адпраўлялі, прадавалі каня і зімавалі ўдваіх. Цяжкавата, але ладна затое.

А пасля такі нячысты паблытаў. Надумаліся сабе палёгку зрабіць і сваякоў памілаваць. У яго быў пля-

меннік,— от, галайстра нейкі, тут у мястэчку,— а ў яе пляменніца — добрая дзяўчына, гаспадыня спраўная, хоць і з вёскі. Казала-такі: бог — богам, а паперка сваё, паперку трэба зрабіць. Ды Пятрусь не паслухаў. Адно за адным пайшло... Дзе ж там!— з родным дзіцем не ўжыўся, а гэта ж чужое. Схамянуўся Пятрусь прагнаць,— ды куды там,— без кія да Банькі ні доступу. Самой толькі Ганны было шкада. Дзеўка яна не цаца была, а Ванька — атлёт. Век бы ён Ганны не ўзяў, каб на Грыбава дабро не пагнаўся. А тут пачаў яшчэ біць яе і сварыцца: «Пакіну!»

А яшчэ ў іх дзяўчынка была, Лідачка. Не магла і падумаць старая, што трэба будзе з ёю разлучыцца. Але ж свая кашуля да цела бліжэй. Выжылі яны сваіх «прымакоў». Ды так-такі з нічым. Пятрусь хадовы, судзіцца ўмее. Ну, і золата таксама.

І вось жывуць ізноў цэлы гадочак адны. Дом ачысцілі, падмалявалі, здалі пад кватэры панам чыноўнікам, а самі сяк-так у баковачцы-кухні. Колькі Ім трэба! Лета, таксама як і раней, управілі. Цяпер парабак пайшоў, каня прадалі, і жывецца спакойненька.

Ды вось дачуўся Пятрусь, што балоцкая беднага — зладзеі гэтыя! — лес іхні сячэ. Хоча заўтра паехаць. Каня ў Лейзара ўзяў. Хаця б не заспаць...

Так думала старая, засынаючы.

І заспала...

Бо прыснілася ёй Лідачка, зорачка яе ненаглядная, унучка, хоць і не родная. Прыснілася так, як калісьці было ў сапраўднасці. Пакупала яна Лідачку, здаецца, і калыша, спявае:

Люлі, люлі, люлі,
Ката ў лапці абулі...

— А-а-а,— цягне Лідачка з-пад хусцінкі, памагаючы бабулі. А потым — і спіць жа, здаецца! — падняла лобікам хустку, сцягнула яе ручкай з галавы, смяецца, рыбка, і кажа: — Бабуля, бу-у!..

— Бу-у, бу, нягодніца, бу-у-у,— упіраецца бабуля маршчыністым ілбом у цёпленькі лабок унучкі. Тады Лідачка ловіць бабуліны «бусі» адчыненым ратком, як птушанё... А потым, шэльма, за бусі:

— Бабуля,— кажа,— опа-па...

— Бяссонніца ты мая,— наракае бабуля. Бярэ Лідачку на рукі і садзіцца з ёю на нізкім услончыку перад грубкай.

— Зі-зя, зі-зя,— паказвае Лідачка пальчыкам на агонь у грубцы.

— Жыжа, жыжа, каток,— адказвае старая. А сама заглядзелася, як зыбаюцца цені на моцным бярозавым жары, і думае зноў аб тым, што пайшоў з іхняй хаты спакой і лад, і толькі Лідачка, як тая божая іскра, тлее між імі і лучыць іх у адну сям'ю. А то б і насы адно аднаму паадкусвалі...

Прачнулася старая і задумалася. Як яны цяпер — і Ванька, і Ганна, і Лідачка?.. Стары насценны гадзіннік цік-так, цік-так, а Грыбіха думае. А пасля гадзіннік захроп, зашыпеў і, набраўшы духу, бомкнуў адзін раз і зноў пачаў махаць маятнікам пад барадой і стукаць: цік-так, цік-так...

«Першая гадзіна,— падумала старая,— паспее яшчэ, хаця б у тры выехаць з дому. А то яшчэ і сам акалее недзе пад кустом, чакаючы злодзея».

Задумалася зноў...

Усё тое самае круціцца: то начлежнік і сын, нябожчык Міхась, то прымакі і Лідачка... Сумна стала старой на сваю адзіноту. Падумаеш, багатыя, а і спамянуць ніхто не спамяне па смерці...

«А можа ён нядобра ідзе?» — раптам падумала яна. Паднялася, абмацала на камінку запалкі і злезла з печы. Запаліла лямпу на стале і падышла з ёю да гадзінніка. Падняла агонь, зажмурылася. Праз пыл на шыбе на Грыбіху глядзелі цыфры і стрэлкі старога, як яна сама, гадзінніка. Цік-так, цік-так, цік-так...

«Ах ты! — без нечага тры, вось-вось зазвоніць. А тут яшчэ і каня не карміў і снеданне не гатова...»

— Пятрусь, уставай! — гукнула старая на печ.— Уставай, падла ты, тры гадзіны!..

Пятрусь, хоць і глухаваты і спіць яшчэ моцна, раскатурхаўся хутка, сцяміў, у чым справа, і пачаў яе лаяць:

— Дурніца ты, забрында! Цяпер што? — дарма я Лейзару каня накарміў, каб ты наелася чэмеру! А там увесь лес пасякуць!..

Старая зноў успомніла Лідачку, Міхася, і ўся тая злосць на жыццё, якую яна толькі мела, сабралася, здаецца, адразу.

— А я што,— заскрыпела яна,— камень? Мне мора трэба? Ты вось ляжы, як пан, а я табе ўсюды спраўлюся. Скулу! Ступаліся ногі за ўсім... З табою ж не ўбудзе ніхто. Ганну прагнаў...

Удар кулаком у сухія, уцягнутыя пад плечы грудзі перабіў ёй гаворку. Колькі там трэба было!.. Старая так і асунулася каля стала, аберуч схапіўшыся за сэрца. Стары збянтэжыўся, што і гэтага выйшла зашмат, аднаго кулака. Ён пастаяў, пасля дзьмухнуў па лямпу, апрануўся і выйшаў. А старая адвяла дух і заплакала.

Начлежнік на куфры прачнуўся яшчэ на першы крык, але толькі цяпер уцяміў, у чым справа. «У-ух ты, якое гняздо!» — падумаў ён учарашняю думкай.

— Цётка, што з вамі?

Старая прыціхла: не думала, што ён не спіць.

— Цётка, што з вамі?

«Такім голасам гаварыў тады Міхась... Ды яшчэ: «Мама, старэнькая мая...»

А хлопцу ўспомнілася раптам далёкая, родная вёска. Там, за Баранавічамі, дзе пачынаецца Палессе. Тая вёска, куды ён вярнуўся з астрога, пасля таго як

...аб'ездзіў без білета далёкія старонкі —
Каранова, Гродна, Вронкі...[1]

Як шмат змяніўся ён за тры гады! А вёска і мама былі, здавалася, тыя самыя. Ён вярнуўся сталейшым, як выйшаў. Ужо не саромеўся свайго жалю і тваіх старэчых пяшчотаў, ён цалаваў твае сухія, спрацаваныя рукі і нечакана дрыжаў. А цёплыя слёзы каціліся... А ты — усё ж тая самая: замучаная працай, у лапцях,— ты цалавала яго, не могучы звясці губы ад плачу, туліла да сухіх грудзей яго худую астрыжаную галаву, мурзала гарачымі слязьмі і плакала: «Коля мой, мілы мой Колік... Дзіцятка маё, што яны з цябе вырабілі!.. Што яны зрабілі!..»

І цяпер вось гэтая другая маці плача. Толькі ж аб чым і чаму?

Мікола ўстаў з куфра і, басанож па халоднай земляной падлозе, пачаў шарыць у цемры. Рог стала... запалкі... Запаліў адну, пасля лямпу. Разгледзеўся. Старая сядзела на зямлі, ля печы.

— Уставайце, цётка, я памагу.

— Я сама, сынок, я сама,— баранілася яна. І ўстала сама. У выступках патэпала да ўслона. Села. А Мікола лёг ізноў. Доўга маўчалі абое. Ён глядзеў

[1] Палітычныя турмы ў буржуазнай Польшчы.

на яе ўпаўшымі, зашклёнымі ад слёз вачыма, а пасля павярнуўся на спіну, уперыўся зрокам у столь і нешта думаў...

— У мяне быў таксама сынок,— пачала, памаўчаўшы, старая.— Таксама добрае сэрца, няхай яму бог даруе...

— Я ведаю, чуў.

Ды тут зашлэпалі валёнкі Петруся, пасля грукнулі дзверы, і, не дачакаўшыся яшчэ, пакуль ён у нойдзе ў кануру, гутарка абарвалася. Пятрусь распрануўся, патушыў агонь, палез на печ. Там ён нагой аб нагу скінуў з валёнкаў галёшы, і, адзін за адным, яны мякка ляпнулі аб падлогу. Гэта былі апошнія гукі. Потым цемра злучылася з цішынёй.

Пакуль стары распранаўся, начлежнік вадзіў вачыма за яго павольнымі, важнымі рухамі, і ўчарашняе прыкрае пачуццё вярнулася зноў...

«Які ён дзікі, гэты стары! І як усё ж такі дзіўна складаецца часта жыццё: у такой сям'і, як колас на смецці, узрастае такая адзінка, як той іхні сын...»

Учора ўвечары солтыс, ведучы Міколу сюды на начлег, расказваў аб Грыбавым сыне, чамусьці з хітранькай усмешкай. Той быў «талстовец», але ўсё ж такі неяк імкнуўся да лепшага. Бачыш, не пайшоў за бацькамі, цягнуў за беднатой, загінуў у змаганні з хваробай... А маці яго?.. Усе яны крышку падобныя, нашыя маці... Шкада старой... А стары кулачына — агідны...

## 2

Раніца ўстала марозная, ясная. Пакуль парастайвалі ў небе зоркі, збялеў асколак месяца і зарумяніўся над лесам усход,— вёскі ўжо не спалі. Світанне ні-

колі не застае іх у сне, бо працоўны зімовы дзень на вёсках пачынаецца ноччу.

У Балотцы, той самай вёсачцы, каля якой быў лес Петруся Грыба, вядома, таксама не спалі. Над стрэхамі шэрых хатак, заваленых снегам, слупамі стаялі дымы. Сям-там скрыпеў журавель або тарахцела круцёлка над студняй. Сцежкамі да гумнаў праходзілі мужчыны. І толькі дзе-нідзе свяціўся ў хаце спознены агеньчык.

У хаце гарбатага краўца Лапінкі снедалі пры агні. Раней, як заўсёды, бо сёння тут начаваў па дарозе з горада і цяпер хацеў выехаць раней дзядзька Алесь Жывіца,— Алёшачка, як называў яго гаспадар,— сябар маленства, сусед з той самай занёманскай вёскі, адкуль быў і Лапінка, прымак у Балотцы.

Прымы яго — нясытныя: загончык поля і хата на курынай ножцы. Ды Лапінка жыў дома пры брату, ліхім чалавеку, у бядзе і паняверцы, і таму ён згадзіўся і перавёз сюды цераз Нёман сваю машыну. З таго часу ў старэнькай Марцінай хаце весела сакатала кравецкая машына, а над ёй безупынна малоў і спяваў, спяваў і малоў вясёлы, як шпак, калека-кравец. «Чорт не адны лапці стаптаў, пакуль такую пару дабраў»,— жартаваў ён з сябе і з Марты, але ўсё ж, як людзі кажуць, дзеткі былі, дый адно за адным.

Два старэйшыя хлопчыкі, Косцік і Шурка, снедалі цяпер разам з бацькам і госцем. Дзеля госця Марта напякла скавародку сала, і ўсе мачалі ў яго бульбу і елі ўрачыста, па-святочнаму.

— Я ж кажу, брат, хлопцы ў цябе — малайцы. І дарма ты ўсё плачаш...— гаварыў госць.— Так і глядзі — год за год...

— Сэрца маё трапечацца, Алёшачка, як пачую...

Сам, як той казаў, граша не варты, ды дзеці затое — слава богу,— гаварыў Лапінка. І выходзіла ў яго гэта неяк па-бабску: ня-ня-ня-ня... Маленькі каля дзядзькі Алеся, ледзь з-за стала відаць, і ногі не дастаюць падлогі. Ён быў гарбаты без гарба, не ад роду: малым быўшы, зваліўся, накольнік, з вішні і ўбіў, як кажуць, ногі ў зад, не вырас. Галава — без шыі, як у вожыка, і пастрыжаны «пад ярша».— Паглядзі вось,— казаў ён,— Косцік мой — гаспадар, дзякуй богу, навабранец, дванаццаты гадок ад восені. Памагае мне: наметкі выцягвае, грэе ўцюг, гузікі прышывае. Ужо і ў лесе два разы быў. Або Шурка. Дзевяты гадок, чытае — як рэпу грызе, і гусі пасе ўсё лета...

Косцік і Шурка ласа елі, раз за разам абсмоктвалі ацякаючыя салам пальцы і маўчалі, быццам гутарка іх не датычыла.

— А Колік яшчэ спіць,— гаварыў Лапінка,— як пшаніцу прадаўшы, ні аб чым галава не баліць... Паглядзі!

Дзядзька Алесь чуў гэты перабор сыноў яшчэ ўчора вечарам. І цяпер яму зноў успомнілася тое самае: згніўшыя пенчукі прыдарожнай вярбы, абсмаленыя пастухамі, дуплаватыя, а ўсё ж жывыя, бо з-пад карэння іх ідзе падсада маладых, кучаравых лазінак, жывых і вясёлых.

— Але, братка, узбіўся ты на корань. Здароў будзь, дзяцей — нібы ў Янкеля, нашага карчмара,— сказаў ён і засмяяўся.— Ды што ж ты гэтага яшчэ не ўспамянуў, што ў калысцы. Усё роўна ўжо: «Божаваспомні...»

— Гы-гы-гы,— зарагатала Марта.— Саромеецца, дальбог! Я казала — нашто яно нам чацвёртае? Хапіла б і трох. Ды ўсё ён вінаваты, дальбог.

Лапінка збянтэжана зачырванеўся.

— Ну, нічога, Кастусь,— смяяўся госць.— Даў бог дзеці — дасць і хлеб. Свет вялікі. А што ж ён у цябе ў лес? Наймаў хіба каня?

Лапінка ажыў.

— Якое, Алёша, ён сам, як людзі.

— Саматугам?

— Якое! Не ведаеш хіба, як у нас дровы возяць, па-шляхецку? На сабе. Высячэ цялеж,— на плечы і панёс. Кожнай раніцы, як ваўкі, так і сунуцца з кустоў...

— Проша пана, далікатна,— засмяяўся госць.— Яшчэ б зонцікі пабралі, каб не капала з галля... А каб вас з вашым панствам. І ты ўжо, бачыш, шляхціц, пан: дровы на сыне возіш...

— Ну, убіўся ў вароны — каркай так, як і оны. Чым я не пан? — смяяўся Лапінка.— Ем ваду, п'ю ваду, умываюся і разліваю...

— Э, братка, няма лепш, як у нас лес крадуць. Пашлеш разведку, а сам — назіркам. Махнеш пень, ачок семдзесят-восемдзееят, ды справішся за дзень разоў два-тры. О, гэта хоць варта заходу. А што ж ты, як той казаў, не пад'еў, а толькі замурзаўся.

— Што ты раўняеш, Алёша. Куды я, чарвяк той няшчасны. Я рад, што хоць гэтак, як людзі. Каб гэта конь ды сам быў чалавекам. Раней наймаў, а цяпер і я, як усе.

— Па-панску,— гыкнуў госць,— пад зонцікам. Эх вы, шляхта, шляхта!..

— Не магу, Алёша, і сам ніяк прывыкнуць. Няма каб гэта проста, па-свойму, па-людску, а ўсё козырам. Бабка тая забрынданая ў хату ўвойдзе і то: «Дзень добры панам». А ёй усе з такімі важнымі відамі: «Дзень добры, пані». Няма таго, каб цётка ці бабуля. На саломе спяць, зубамі ішчуцца, а панства...

— Ты ўжо не малоў бы, дальбог*— не вытрымала Марта.— От, тушы лямпу ды еш!

— Што, не праўда? — агрызнуўся Лапінка. Аднак устаў, хукнуў на лямпу — раз і яшчэ раз — і сеў.— Без агню відна,— сказаў.— Ну, дык нясі там другое, чаго ж...— І, калі Марта выйшла ў кухню са скавародкай, ён зашаптаў да госця: —Маёй пані не падабаецца, бачыш. Таксама шляхцянка.

— Будзеш малоць-малоць,— казала Марта, несучы на стол зацірку,— а зараз яшчэ тое трапло прыйдзе. Хай бы лепш Косцік ішоў хутчэй, а то зноў прычэпіцца, прапаведваць будзе, дальбог.

— А хто гэта? — спытаўся госць, беручыся за лыжку.

— Вучань мой, брат Міша.

— Як гэта: брат? Адкуль ты ўзяў яго?

— Гэта, Алёшачка, брат па Хрысту. З Зарэчча адзін, баптыст. Пяцідзесятнікі — так яны называюцца.

— А чаго ж вы яго баіцеся?

— От,— адказала Марта,— воўк сабакі не баіцца, але не хоча звягі слухаць, дальбог. А мой яму патурае...

— Няможна гэтак, Мартачка,— перабіў яе Лапінка,— ён не сваё гаворыць. Напісана: «Не ўкрадзі». Ну, ён і стаіць за слова гасподняе. Крычыць на мяне, што Косцік ходзіць лес красці. Грэх. І кароўку на панскім папары папасвіць — таксама грэх. Вось ён які, брат Міша. Жывуць яны спраўна, на ўсё Зарэчча, гаспадарка, як шклянка. Ён — старэйшы сын у бацькі, смятаннічак, дваццаты год, голас звонкі, сам без ніякага клопату, чысты, гладкі...

— Нябось, каб свайго не было, дык папасвіў бы,— умяшалася Марта.

Госць аблізаў апошні раз лыжку, палажыў яе і пачаў:

— Грэх...

— Ешце, ешце яшчэ, дальбог,— перасцігнула яго Марта.

— Не, дзякую,— устаў дзядзька Алесь.— Грэх...— сказаў ён, вымаючы капшук з махоркай.— Грэх, як той казаў, у мех ды кіем па баку. А яны загарнулі паўсвету — і не грэх. Гэта, брат, адна крамка: папы з багатымі. А ты, наш брат, бядняк,— хоць здохні. І ты вось дзень і ноч сохнеш з іголкай, а ў хаце палена дроў няма. Не, братка, хто, як той казаў, у лесе не крадзе — той у хаце не гаспадар. Прыказка спрадвеку. Сам накраў, аблажыўся, а ты, як той казаў, голы, дык будзь яшчэ і святы.

— Яно гэтак, Алёшачка,— ажывіўся Лапінка.— Пяць з палавінай злотаў адна метра дроў, тры злоты хурманка. І едзеш вунь на той свет, у пушчу. А мне тут сохні колькі дзён за вазок. А надоўга яго хопіць? А хлеб, а адзецца, абуцца? А тут табе, і праўда, лес пад бокам, ды няможна. І сам не гам і нікому не дам. Не, самі то яны гамаюць, толькі ты на яго паглядай, як той цюцька... А паглядзіш ізноў, па Івангеллю... напісана ж такі...

— Напісана...— перабіў госць.— Ты скажы, чаго яшчэ не напісана дагэтуль? А ў Івангеллі хіба не сказана, што «горы і дрлы выраўноўвайце»? Не Казаў хіба той самы Ісус: «гора вам, багатыя?» Казаў?

— Казаў, Алёшачка...

— Ну, бачыш. У гэтым уся праграма: падзяліся, як з братам. А гэтыя Што, баптысты твае,— толькі іншых дакараць. Як збяруцца разам, дык, э-тэ-тэ, хоць ты да раны Яго прылажы, аж пацее з любві, а разыдуцца — кожны святы да сябе рукой горне. Ён табе

прапаведуе, мне. Пеклам нас страшыць. Дзе ты знойдзеш горшае пекла, як тут? Ты пайдзі вунь тым, што арудуюць намі, скажы, што грэх... Я іх бачыў адзін раз, ды і то сказаў, годзе. Іду гэта па Зарэччы, чую, у хаце адной аж на сцену лезе народ, лямант, візг!.. Што гэта, пытаюся. Моляцца, кажа. Увайшлі мы. А каб вас з вашай малітвай. О ды о! А пасля, братка, як паднялі тарарам — хоць уцякай!..

Лапінка засмяяўся. Успомніліся яму сходы зарэцкіх баптыстаў. Вось ужо шосты гадок з той пары, як у іх там пачалося, як яго цягне туды да прыгожых песняў і мілых слоў аб пралітай госпадам крыві. Хадзіў туды часта, бо непрыхільна было сярод ганарыстай балонкай шляхты. Там вось гэты самы «брат Міша» згадзіўся вучыцца ў яго шыць і шые ўжо другую зіму. І ўсё намагаецца, блазен, перацягнуць яго ў сваю веру, перахрысціць у Нёмане, другі раз ад роду, цяпер ужо не голага, а ў споднікак... На сходах Лапінка чула падцягваў хору сваім бабскім голасам, слухаў пропаведзі і спадцішка глядзеў на ўсе бакі. Калі ж «веруючыя» станавіліся на калені і голасна, з прыплачам і хвараблівымі крыкамі, маліліся, па абраду заплюшчыўшы вочы,— Лапінка таксама закрываўся рукамі і ўкрадкай, праз пальцы, цікаваў на тое, як хто моліцца, асабліва калі «хрышчоныя духам» пачыналі балбатаць на «замежных мовах».

— Хай ужо госпад даруе, Алёшачка,— пачаў ён цяпер, смеючыся,— і грэх і смех! Пятрусь з Навасёлак, стары кавалер, рыжы, морду быццам куры падзюбалі, заплюшчыць вочы, закапыліце, як табакі панюхаўшы, ды толькі адзімае: «А-фу-лэ!» Гэта ён з духам святым, па-замежнаму. А Раман Дуля — ух ты, у новым кажушку, грудзі ўперад, сцёгны тоўстыя — шах-шалах — халявы блішчаць, бах на кале-

ні... «Госпадзі! Ты благаваліў, о, што б я празрэў і навучаў народы, о-о, малю цібя». А гаворыць, як той прарок, зігзагамі ўсё, лукаткамі. Таксама з духам святым. А я сабе думаю: прайдзісвет, прайдзісвет! Забыўся ўжо, колькі ад цябе дзевак паплакала? А цяпер ты «празрэў і навучаеш народы». А хто ў Тацяны каноплі мочаныя ўкраў? Пагнаўся!.. А з бабамі, Алёшачка, яшчэ лепш. Марылька Гарцава — баба рабочая, што гадок, то й сынок. Эх, зажмурыцца, звядзе калені і зойдзецца: «Асаначка, Ісусічак мой, залаценькі!..»

— Ха-ха-ха, а ты, брат, той самы, цябе нішто не зменіць,— смяяўся госць.— Арціст, дальбог, арціст, шпіктакаль!

— Смяецца,— гаварыла Марта, таксама рагочучы,—смяецца, трапло, а сам хутка будзе такі самы пярэхрыст, дальбог.

— А што ж,— згадзіўся Лапінка,— я таксама ўжо «брат прыбліжоны...» Чакаюць яны, чакаюць, пакуль я паверу ды хрысціцца пайду, а я ўжо чацвёрты гадок хаджу перадойкай. Раз, на гадавым зборы, сяджу я ззаду, а брат Рапейка — прапаведнік, што быў у Амерыцы,— эх, толькі вочы пабліскваюць, поўны, харошы,— «брація,— кажа,— бліжэй сюды. Той брат, маленькі, з смірэнным відам — бліжэй да сэрца господняга. «Прыйдзіце ка мне ўсе труждаючыяся і абрамянёныя...» Я гэта за шапку ды на самую першую лаўку. Гляджу: Настуля Кукобіна, багатырка на ўсю вёску, моліцца, а сама ўсё цікуе за рэчку, каб гусі ў шкоду не ўлезлі. А пасля — эх, паляцела — а гы-ля!.. Ну і даваў жа ёй брат Рапейка па пер'і. Нельга, кажа, служыць адразу богу і мамоне!..

— Усім вам адна трасца, дальбог,— перапыніла Лапінку Марта,— маўчаў бы лепш.

